PL ISSN 0546—1966
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1810) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 27 СТУДЗЕНЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)



Зімовы Беласток. Фота Я. Целушэцкага.




За апошні час у краіне адбылося шмат істотных падзеяў, якія будуць мець непасрэдны ўплыў і на нашу — беларусаў — будучыню. Наслядоўнасці гэтых падзеяў мы будзем адчуваць усё больш і больш дакладна, таму што мы ўсё яшчэ не падрыхтаваныя да новай палітычнай і эканамічнай сітуацыі.

Вынікі прэзідэнцкіх выбараў паказалі татальную апазіцыйнасць беларускай грамадскасці да новай палітычнай рэчаіснасці ў Польшчы. У вачах беларусаў новыя „дэмакраты“, што цяпер пераанялі ўладу, не дужа адрозніваюцца ад старых, папярэдніх. Адны і другія ў адносінах да беларусаў хварэюць на тую самую хваробу: не могуць перанесці нармальнага іх існавання. Уражанне ў мяне такое, што беларуская прысутнасць на Беласточчыне паралізуе нервовую сістэму кожнай тут улады. Тайны рапарт Міністэрства замежных спраў, выяўлены публічна ў Сейме паслом У. Цімашэвічам, сведчыць пра тое, што беларусы аб нармальнасці і дэмакратыі могуць толькі марыць пакуль што. Ува ўсе структуры ўлады ўліваюцца людзі, што вельмі гучна заяўляюць пра дэмакратызацыю, плюралізм ды экуменізм, не разумеючы нават, што гэтыя назовы азначаюць. На практыцы, асабліва тут на Беласточчыне, гэтыя словы не азначаюць нічога. І „кадравая палітыка ў Бельску“, і „гмінная дэмакратыя ў Мілейчыцах“ паказваюць абсалютную павярхоўнасць тых вялікіх ідэй, якія вялі да змены палітычнае ўлады ў 1989 г.

Няма сумнення, мы, беларусы, у гэтай новай палітычнай сітуацыі даволі моцна разгубіліся. Некаторыя пабеглі на пакоі новага пана цалаваць яму ручкі, прыляпіўшы сабе на твар лёкайскую ўсмешку. Іншыя кожную ноч пaглядаюць на неба, чакаючы вяртання на небасхіл чырвонай зоркі. Адны і другія — людзі мінулай эпохі, кормяць сябе ілюзіямі і жыць іначай, чым прыслужнікамі, не ўмеюць.

На жаль, няма ў нас аніводнага аўтарытэтнага грамадска-палітычнага цэнтра, які сёння мог бы адчувальна паўплываць на паставы беларускіх жыхароў гэтай зямлі. Царква заявіла, што палітычнымі і нацыянальнымі пытаннямі сваіх вернікаў займацца не будзе („Кур'ер Падляскі“, 18.12.1990), БГКТ, хоць так дэманічна прадстаўленае ў рапарце МЗС, на самай справе з'яўляецца прадстаўніцтвам мёртвых душ, БАС і БДА — гэта арганізацыі з невялікімі ўплывамі сярод інтэлігенцыі і студэнцтва. Нейкую надзею дае праект утварэння Рады беларускіх арганізацыяў, якая выконвала б ролю каардынацыйна-дыспазіцыйнага асяродка беларускага руху ў Польшчы (такога беларускага „парламента“). Ці Рада стане рэальнасцю, пакажа час.

Ранейшыя ініцыятывы, з якімі выступалі лідэры БДА ў галіне гаспадарчай і грамадскай актывізацыі беларусаў, далі невялікія вынікі. Выбары ў гмінныя самаўрады ў маі 1990 г. для беларускай справы аказаліся прайгранымі. Прыглядаючыся некаторым нібыта беларускім кандыдатам у камунальных выбарах, я адчуваў сябе даволі пагана: „нашы людзі“ найчасцей хаваліся за „кааліцыйнымі“, „грамадскімі“, „сацыял-дэмакратычнымі“, „пээсэлаўскімі“ і нават „салідарніцкімі“ шыльдамі, абы толькі не пад знакам беларускага руху. Сённяшні плач і лямант, што беларусаў выкідаюць з працы, адбіраюць у іх прэміі ці пазбаўляюць кіраўнічых пасадаў, не выклікае ў мяне на-

(Працяг на стар. 6)

## СВЯТЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

У 1988 годзе Праваслаўная Царква святкавала 1000-годдзе Хрышчэння Русі. Трэба адзначыць, што для нас, беларусаў, гэта дата таксама знамянальная. Ужо ў часы ўладання князя Уладзіміра створаны былі на беларускіх землях епіскапскія кафедры ў Полацку і Тураве. З нагоды тысячагоддзя Хрышчэння нашых зямель Руская Праваслаўная Царква дала згоду Мінскай мітраполіі на вызначэнне для святкавання памяці беларускіх святых. На выдадзенай Мінскай мітраполіяй кружэлцы знаходзіцца ікона 14 святых, якія сваё жыццё і малітву звязалі з беларускім народам. **Гэта:**

— св. благаверны князь Расціслаў,
— св. прававерная Ефрасіння Полацкая,
— св. прападобны Марцін Тураўскі,
— св. мучанік Афанасій, ігумен Брэсцкі,
— св. Кірыла, епіскап Тураўскі,
— св. Дзіянісій, епіскап Полацкі.
— св. Сімяон, епіскап Полацкі,
— св. Мін, епіскап Полацкі,
— св. Лаўрэнцій, епіскап Тураўскі,
— св. прападобны Макары Пінскі,
— св. прападобны Елісей Лаўрышэўскі,
— св. прападобная Юльянна, княжна Альшанская,
— св. благаверная Сафія, княжна Слуцкая,
— св. мучанік, младзенец Гаўрыіл Заблудаўскі.

На маю думку, на гэтай іконе бракуе іншых святых — хаця б св.св. віленскіх мучанікаў Іаана, Антонія і Еўстахія ці святых смаленскіх, якія служылі Госпаду Богу і людзям на беларускай зямлі. Мы, беластаччане, ганарымся тым, што на іконе беларускіх святых знайшлося месца для св. Гаўрыіла Заблудаўскага.

Варта нам пазнаёміцца з жыццём святых беларускай зямлі, просячы ў іх малітву за наш народ. У сённяшнім нумары, на стар. 6—7, прадстаўляем постаць прападобнага Лаўрэнція, епіскапа Тураўскага.

**Антось Мірановіч**

# З міхулага

## ВЯЧОРКІ

Яшчэ добрых пару гадоў пасля вайны вёска дзялілася на багацеяў і беднякоў. Адным словам — лічылася зямля. Маладыя багачы таксама не вельмі ахвотна хадзілі ў кампаніі з беднымі. Аднойчы Галя, дачка ўдавы, пайшла на вячоркі да Настулі, дачкі многазямельнага. Дзяўчаты сябравалі, нягледзячы на гектары сваіх бацькоў.

Спачатку сядзелі разам, вышываючы макаткі, а пасля прыйшлі іншыя дзяўчаты. Убачыўшы Галю скрывіліся, аднак нічога не сказалі. Ведалі, што Настуля не любіць, калі хто ў яе прысутнасці прыніжае людзей.

Дзяўчаты спявалі народныя песні, а калі ім гэта надакучыла, пачалі гаварыць, за што іх хлопцы возьмуць замуж.

— Мяне за каровы, — сказала Жэня, — бацька абяцаў даць дзве каровы, калі хто будзе са мной жаніцца.

— Мне дадуць кавалак лугу і пару авечак, — пахвалілася Марыся.

— Перастаньце, — не сцярпела Настуля, — кожнай штось там дадуць, абы толькі хто нас браў.

— Але, — усміхнулася Агата, — мы ўсе выйдзем замуж, толькі вось гэтая няшчасная Галя астанецца на чужым загоне!

Настуля не паспела на гэта сказаць слова, як Галя з плачам кінулася ў дзверы.

Дома легла на печ і плакала, не слухаючы, што гаворыць маці.

Неўзабаве прыйшла Настуля.

— Чаго ты плачаш? — спытала. — Не слухай, што табе тая Агата нагаворыць. Няхай сама лепш думае, ці хто яе захоча ўзяць.

Прайшлі гады. Усе дзяўчаты выйшлі замуж, а адна Агата жыве ў апусцелай хаце.

## СВЕДАК

Усе называлі яго Чорны Іван. Сапраўды — быў чорны, як вугаль. Лянівы быў, але затое так гаварыць умеў, як добры адвакат.

Аднойчы Даніла па-п'янаму набіў Васіля. Васіль меў сведкаў і падаў на яго ў суд. Даніла падумаў і ўзяў на сведка Чорнага Івана.

Чорны Іван быў згодны, але пры ўмове, што той дасць яму саланіны, тры бутэлькі гарэлкі і буханку хлеба, ды ў дзень суда накорміць і напоіць.

Іван перагаварыў усіх сведкаў Васіля. Даніла справу выйграў. З той пары, хто толькі судзіўся, браў Чорнага Івана.

— Во, Чорны Іван прыехаў! — гаварылі людзі. — Справа будзе выйграна!

Аднойчы суддзя не вытрымаў:

— Пане Кастрыцкі, ці вам не абрыдла фальшыва прысягаць на крыж Ісусавай мукі?!

— Высокі судзе! — усклікнуў Іван. — Я не магу сцярпець, калі караюць нявіннага чалавека!

**Аўрора**

# Свойскія малюнкі



*Беласток. Вул. Кіеўская. Малюнак У. Петрука.*

## Добры ўчынак

Цяпер мала гаворыцца аб грамадскай працы сялян, але і надалей яна працягваецца і ніхто яе не адкінуў, бо што робім, то для сябе, для ўласнай карысці. Добрая праца заўсёды прыносіць добры плён і пашану ў грамадстве. Нядаўна сяляне малой вёсачкі Рутка (Дубіцкая гміна), у якой нацэлых 20 двароў, рашылі адрамантаваць кусок палявой дарогі, што ідзе на палі за будынкамі. Солтыс вёскі — Мікалай Леанюк, сын Міхала (яго нядаўна жыхары ізноў выбралі на гэту пасаду) дагаварыўся з СТВ (спулдзельня вясковага транспарту) у Гайнаўцы, каб яны далі некалькі сваіх самазвалаў і з Тафілаўскай жвіроўні (гэта блізка) навазілі жвіру на гэту заўсёды вельмі дрэнную балоцістую і непраходную дарогу. Так і зрабілі! Некалькі самаходаў вазілі жвір на дарогу, а жыхары Руткі плянтавалі яго як трэба і паабапал дарогі капалі раўчукі. За дзень усё было зроблена. І прыемней вокам глянуць на новую дарожку і пры тым хочацца прыпомніць, што гэтай дарогай заўсёды карыстаецца дзядзька Мікалай Бахмат, які жыве на каленіі за вёскай. Гэты стары чалавек пастаянна мучыўся, калі дажджы ішлі, каб дайсці да вёскі, бо толькі гэта дарога спалучала яго двор з усім светам. Цяпер сітуацыя змянілася на карысць гэтаму дзядзьку, а таксама і мне, бо пастаянна прыношу „Ніву“ і пенсію Мікалаю Бахмату, з якім я вельмі добра жыву і ён мне як родны дзядзька, а ўжо старэнькі, бо яму 86 гадоў. Але памяць мае дасканалую і залатыя рукі. А хамуты і сёння робіць і ніхто лепш за яго гэтай сялянскай рэчы не выканае. Ён — рымар над рымарамі.

Ён таксама дасканалы апавядальнік старыны; як жылося пры цары Мікалаю ІІ, а пасля пры санацыі, а варта ведаць і тое, што на Рутцы, яшчэ пры санацыі была праведзена камасацыя зямлі і зроблена была дасканала і не крыўдзіла сялян, хаця і была „вайна“ паміж сялянамі, але гэта з-за дурноты, як усюды. Сялянам далі калонію ў адным кавалку, каб аблегчыць іх цяжкую працу.

**Мікалай Панфілюк**

# Аляксандр Максімюк
# У цяні Ватыкану

### 6. НЕСКАНЧОНАСЦЬ

Пачатак жніўня 1990 — самая адпаведная пара, каб вярнуцца на тую шашу з Філаха ў Тарвісіо і ўцячы ад летняе спякоты. У Радыё, у езуітаў, адчынялася магчымасць працы сама менш яшчэ год часу. Мабыць, і добра, што пра гэтую справу вырашылі, так сказаць, вонкавыя акалічнасці, а не мая непрымушаная воля. Сам не ведаю, ці быў бы я тады ў змозе падмацавацца ідэяй, якая ўзнікла ўва мне, калі я аднаго разу валяўся ў рымскім парку *Villa Borghese*. Ёсць у ім невялікае азерца, пасярэдзіне якога б'е метраў дзесяць угару фантан. Калі станеш плячыма да сонца, убачыш у ім вясёлку. Надзвычай чароўная мясціна. Спачатку не мог я ўразумець, чаму ў гэтым парку заўсёды знаходзілася некалькі паліцыянтаў. Як аказалася, сцераглі яны маральнасці. У парк прыходзілі парамі маладыя людзі. Калі паліцыя адводзіла ад іх свой зрок, яны вокамгненна залазілі адзін на аднаго і гэтаму падобнае. Тут, на ўлонні прыроды, ураўнаважваючы ўражаннямі ад міжземнаморскай флоры езуіцкую палову сваёй натуры, знайшоў я вялікі глузд сваіх блуканняў па чужыне, так бы мовіць, іхнюю эсенцыю. Спазнаў я на ўласнай шкуры, якія ў сапраўднасці тыя драпежніцкія краіны, што значыць капіталістычныя. У Ватыкане, як мне цяпер здаецца, дастаткова прыгледзеўся гэным славутым езуітам. У Мюнхене — ухіліўся ўздзеянню, як нядаўна яшчэ здавалася, падрыўной радыёстанцыі. У Лондане, у які хоць і не наважыўся паехаць, але ж, гэтым самым, не даўся прытарнавацца на уніята. Што тычыць Амерыкі, дык яшчэ ў Мюнхене ўсвядомілі сабе з Багданам, што бадай нам не наканавана выбрацца на застойныя воды Іст-Рывера і калі-кольвечы асесці на яго зорна-паласаты бераг.

Напрыканцы ліпеня 1990 прыехала ў Рым, на адпачынак ад чарнобыльскага ценю, група дзяцей з Беларусі. Я карыстаўся якраз апошнімі днямі належнага мне водпуску. Лінгвістычныя аўтарытэты Беларускай праграмы Ватыканскага радыё вызначылі мяне на перакладчыка. Італьянскія скаўты, бо яны запрасілі малых беларусаў, нарыхтавалі ў дзень прыезду супольны пышны абед. Не забылі нават пра павітальны лозунг — *С счастливым приездом на Рима*. На першы погляд, перакладчыкі нікому не былі там патрэбныя. Праз тры дні, калі шчэзла ўся насцярожанасць, апякунка групы расказала мне і тое, што здарова ўсіх іх муштравалі ў Маскве на выпадак, калі ў Рыме выйдуць з самалёта, а журналісты пачнуць соваць мікрафонамі ў нос. Была яна пад уражаннем, што нічога падобнага не атрымалася. Каля цэлай групы стаў завівацца савецкі рэпарцёр — з пасольства. Аднаго дня ён забрыў з дзеткамі і скаўтамі аглядаць Ватыканскае радыё. Тут хутка прыліп да Янкі Мойсіка і давай яму аб нечым тлуміць галаву. Збіць з панталыку чалавека, які працуе ў езуітаў, не такая ўжо простая справа, як гэта думалася хітруну-рэпарцёру. Шпіён. Хацеў дабрацца да матэрыялаў пра сустрэчу Папы з украінскімі уніяцкімі епіскапамі.

Гледзячы са звыш паўтадавой перспектывы сваёй кар'еры ў езуіцкім радыё, мушу сцвердзіць, што праца ў ім дужа аднастайная. Не надта патрабавальная ад журналіста. Неабходна і дастаткова ведаць пару моваў, а пра ўсю рэшту неабавязкова ўжо думаць. Арганізаванне матэрыялаў для перадачы не прадстаўляе надзвычайнай цяжкасці. Ватыканскае радыё мае сваю паліграфію і штодзёнку-бюлетэнь, у якім матэрыял ужо паладзены. Паасобныя весткі, ці большыя артыкулы ў ім адрозніваюцца толькі прыярытэтам. Пра адны неабходна сказаць у перадачах, пра іншыя неабавязкова — вырашае аб гэтым адказны за перадачу. Прапаведзі і гутаркі на рэлігійныя тэмы таксама не клопат, бо ж у

 

# СВЯТЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

## ПРАПАДОБНЫ ЛАЎРЭНЦІЙ, ЕПІСКАП ТУРАЎСКІ

Аб жыцці і дзейнасці прападобнага Лаўрэнція мы даведваемся з жыцця святых Кіева-Пячэрскай лаўры. Сваё манашаскае жыццё прападобны Лаўрэнцій пачаў у Кіева-Пячэрскім манастыры. Там ён хацеў свой час прызначыць на малітву і подзвіг. Вялікае ўражанне на яго зрабілі словы Збавіцеля, які сказаў: „Когда ты молишься, войди в дом свой, затвори за собою двеьри, помолися Отцу Твоему, которы в тайне, а Отец Твой бачивши тайное, даст тобея явное“. Лаўрэнцій рашыў жыць „в затворе“ — у адзіноце, здалёк ад другіх манахаў, замкнуты ў пячэры. Аднак згоду ў ігумена манастыра на гэта малады манах не атрымаў. Тады Лаўрэнцій пайшоў у манастыр святога вялікамучаніка Дзмітрыя Салунскага, які знаходзіўся побач Кіева-Пячэрскай лаўры. Дзмітрыеўскі манастыр быў устаноўлены князем Ізяславам і падпарадкаваны ў 1128 годзе пячэрскаму архімандрыту. Там Лаўрэнцій, які жыў „в затворе“, прыняў сабе самы суровы рэжым манашаскага жыцця. Дзякуючы шчырай малітве, подзвігу і Боскай ласцы, ён стаў лячыць людзей ад цялесных і душэўных хвароб. Прападобны Лаўрэнцій стаў вядомы шырокаму грамадству. Да яго прыходзілі многія людзі, якія шукалі збаўленне і надзею.

Адзін раз манаху Лаўрэнцію прывялі чалавека з Кіева, якога акружылі д'яблы (злыя духі). Блажэнны затворнік не адмовіўся ад яго, і павёў няшчасніка ў Пячэрскі манастыр шукаць там для яго збаўлення. Акружаны д'ябламі чалавек баяўся ўвайсці ў святую лаўру, поўную манахаў і падзвіжнікаў. Калі ўступіў у манастыр і стаў перад іконай Пячэрскай Божай Маці, д'яблы яго адпусцілі, а сам няшчаснік стаў маліцца Госпаду Богу, удзячны за сваё збаўленне. Сабраныя ў царкве манахі запыталі яго: „Хто цябе збавіў?“ Ён паказаў на Цудоўную Ікону: „Трыццаць мужоў з Ёю сустрэлі нас і я збавіўся“. І так за справаю прападобнага Лаўрэнція ў Кіеўска-Пячэрскім манастыры здарыўся яшчэ адзін цуд.

Глыбокая вера і адданасць Праваслаўнай Царкве манаха Лаўрэнція звярнулі ўвагу кіеўскага мітрапаліта, які ў 1182 годзе назначыў яго тураўскім уладыкам. У Тураве прападобны Лаўрэнцій нягледзячы на сваё становішча прадаўжаў свой подзвіг — даючы прыклад многім манахам, як павінны служыць Царкве і Богу.

(Працяг на стар. 7)

## Помнікі культуры

# Царква ў Чорнай-Вялікай

Першыя пісьмовыя звесткі пра вёску Чорная паходзяць з 1434 г. У другой палове XVI ст. існавалі ўжо тры вёскі, у якіх была супольная назва Чорная: Чорная-Вялікая, Чорная-Сярэдняя (у каралеўскіх маёмасцях) і Чорная-Царкоўная (у прыватных маёмасцях). У часе валочнай памеры (1557-1563) вёскі Чорная-Вялікшая і Чорная-Меншая былі спалучаны ў адну, у якой было 58 валок зямлі. Да I сусветнай вайны ў дакументах ужывалася назва Чорная-Каралеўская.

Назва вёскі мае тапаграфічны характар і выводзіцца ад рэчкі Чорнай, левага прытока ракі Лясная. Назва рэчкі выводзіцца ад чорнага колеру вады і балоцістага дна.

Вёскі з назвай Чорная знаходзіліся сярод найдалей высунутых на ўсход мазавецкіх вёсак, якія існавалі ўжо ў першай палове XV ст. Чорная-Вялікая з'яўляецца мясцовасцю, у якой багаты археалагічны матэрыял, дзе сціраліся элементы дрыгавіцкага і мазавецкага асадніцтва. Узаемнае пранікайне асадніцтва не мела мірнага характару, а сведчаць аб гэтым не толькі многія курганы з XI—XIII ст., але і наяўнасць абедзвюх культур — г.зн. усходнеславянскіх (у гэтым выпадку дрыгавіцкіх) і мазавецкіх элементаў.

Мазавецкае асадніцтва заняло кампактна заходнюю частку Падляшша. Перасоўваючыся далей на ўсход, дайшло яно і на ўсходнія рубяжы Падляшша, але ўжо не ў суцэльнай форме, а ў выглядзе дробнашляхецкіх гнёздаў, вельмі рухавых, але стойкіх на чужыя ўплывы. У цэнтральнай частцы Падляшша рускі (усходнеславянскі) і польскі элементы памяшаліся між сабою так, што назвам вёсак дабаўляліся прыметнікі „ляцкі“ або „рускі“.

Такая сітуацыя (рускія вёскі ў акружэнні польскіх дыялектаў) працягвалася да XIX ст., і ў прынцыпе не змянілася да сёння. У I сусветную вайну большасць жыхароў выехала ў Расію, адкуль вярнуліся пасля яе заканчэння.

У 1921 г. вёска налічвала 67 дамоў, 343 жыхароў, у тым ліку 301 праваслаўнага.

Пасля II сусветнай вайны 6 сем'яў выехала на пастаяннае жыхарства ў СССР, і на іх месцы пасяліліся 8 сем'яў рэпатрыянтаў з СССР.

Яшчэ дваццаць гадоў таму ў Чорнай-Вялікай было 90 дамоў і 530 жыхароў (у тым ліку 87 каталікоў), але міграцыя вясковага насельніцтва ў гарады моцна перацерабіла рады сялян, якія засталіся працаваць на гаспадарцы.

Вёска Чорная-Вялікая гэта адна з нямногіх падляшскіх вёсак у паўднёва-заходнім кутку Беластоцкага ваяводства, дзе большасць жыхароў праваслаўнага веравызнання і дзе амаль усе гавораць штодзень на мясцовым усходнеславянскім дыялекце.

У II палове XIX ст. на тэрыторыі даўняга Падляшша наступіла ажыўленне царкоўнага бу-



Працяг са стар. 1)

лежнай спагады, а, хутчэй за ўсё, ірытуе. Колькі яшчэ часу беларуская меншасць у Польшчы будзе адно глінай у руках майстроў палітычных (у сваёй сутнасці — антыбеларускіх) камбінацый? Як доўга спадкаемцам марксісцка-ленінскага вучэння ў „дэмакратычных“ шатах удасца тлуміць беларусам галаву дзеля свае выгады? Мабыць, яшчэ трохі часу міне, пакуль зразумеем, што найлепш бараніць свае інтарэсы самім, без пасрэднікаў.

У верасні мінулага года па ініцыятыве кіраўніцтва БДА была ўчынена спроба арганізаваць злучнасць гмінаў Усходняй Беласточчыны. Галоўная мэта гэтай злучнасці — памагчы сабе ў вырашэнні гаспадарчых праблемаў рэгіёна і падняць яго з цывілізацыйнага ўпадку. На ўвазе меліся супольныя гаспадарчыя інвестыцыі, што дадуць працу і грошы жыхарам гэтай зямлі, інвестыцыі, якія немагчыма рэалізаваць сродкамі толькі адной гміны. Думка была таксама пра супольнае вырашэнне экалагічных праблемаў, дзеля чаго патрэбны нейкі агульны дагавор. Абрысоўваліся таксама перспектывы гандлю з Беларускай Рэспублікай, дзеля якога неабходна мець шырэйшую арганізацыйна-гаспадарчую структуру, чымсьці толькі адну гміну. Нашу сыравіну — лес, мяса, збожжа — мы аддаем амаль задарма. Калі б перапрацаваць яе ў такія прадукты, як мэбля, каўбаса, мука, — прыбытак памножыўся б у некалькі разоў. На нашай працы пакуль што зарабляюць іншыя, таму што мы яшчэ не хочам думаць самастойна, не хочам самі рызыкаваць і самі зарабляць. У злучнасці гмінаў гэтага можна было б дабіцца нашмат лягчэй, прытым мінімалізуючы фінансавую рызыку. Гэта і ёсць адзіны шанц эканамічнага паратунку сваімі сіламі.




Здавалася, што гэтая логіка да ўсіх зацікаўленых павінна была дайсці. Па запрашэнні войта Нараўскай гміны спадара Тапалянскага, які ўзяў на сябе абавязак каардынацыі дзеянняў у стварэнні гміннай злучнасці, прыехалі ў Нарву прадстаўнікі шасці гмінаў. Уражанне ад таго спаткання ў мяне засталося даволі панурае. Хаця ўсе прысутныя былі беларусамі, то гмінная эліта дэманстрацыйна выступала на польскай мове (раней, у калідоры, размаўлялі між сабою па-беларуску). Большасць карысталася нейкім дзівотным урадніцкім сленгам 70-х гадоў, выказаць у якім ідэю гміннага саюза ў новай эканамічна-палітычнай сітуацыі з'яўляецца лінгвістычнай немагчымасцю. Але галоўная праблема ў кшталтаваным дзесяткамі гадоў светапоглядзе гміннага апарата ўлады: як жа ж так, рабіць штосьці самому, не кансультуючы гэтага з вышэйшымі органамі?! Бо большасць нашай гміннай эліты была пастаўлена на свае пасады беластоцкімі гаўляйтэрамі 10—20 гадоў таму назад, дзеля кіравання зусім іншай эканомікай, чымсьці цяпер. У іхніх перапалоханых вачах я чытаў агульную ацэнку нараўскай сустрэчы: „Гмінная злучнасць — гэта палітычная акцыя экстрэмістаў з БДА“.

Некалькі гадзін дыскусіі і салідная юрыдычная абгрунтаванне, дадзенае Пятром Юшчуком, крыху прасвятлілі справу. Ідэя гміннай злучнасці стала больш зразумелай, хоць усё яшчэ... падазронай.

Каб зашмат не мучыць палітычнай паліцыі (і, як аказваецца, хлопцаў міністра Скубішэўскага), удзельнікі сустрэчы рашылі апублікаваць яе пастанову — дэкларацыю аб стварэнні гміннага саюза — у прэсе. Каментарыі пасля яе, як і належала спадзявацца, былі панура-інфантыльнымі ў сваім агульным выгуку. Коратка ка-



 




(Працяг са стар. 5)

што гэта цябе задушыць, калі не зацвіцеш вершам... Той, хто хацеў бы, а не зможа напісаць, як ты — будзе крывіцца, што ты, напэўна, глядзіш на яго звысока; той, хто піша і добра піша — жыве як піша і піша як жыве, а той, хто гэта прачытае і адчуе для сябе і ў сабе — можа яшчэ не нарадзіўся, але калі прачытае ваш верш — сябе ён пабачыць, не вас. А табе цяпер трэба нармальнага жыцця, з кухняй, калыскай, сеткамі, бо інакш згарыш!" І памёр мой сябра, Міхась, мой Лотаць, які зацвіў маёй вясною... А так тады проста было: свяціла сонца, дыхалі дрэвы, людзі беглі, а я ім крычала: „Усё добра, усе жывём, адазвемся да сябе — усе можам усё сабе аддаць, і ўсё будзе наша — і мая боль, і ваша боль..."

Хадзіў чалавек, як без скуры. І Сонца пякло, — балела, але адчуваў, што жыве. Балела ўсё — што жыло навокал. Жыць жыццём іншага, нашых спраў, чужой бяды, сваёй болі няма асобна.

І ціха стала. Гадзіннік ішоў, цікаў гучна, звычайна — і таму яго не было чутна. Заціх. Стан перадінфарктны. Людзі ўміраюць знаёмыя, і тыя з рэпарцёрскіх вандровак, з замалёвак, свае, блізкія. І ты ўжо бачыш, што вечнасць не тут. Свет рухаецца, падае на галаву, атручаны словам і граззю, няма, няма спакою... Хочаш усё гэта напісаць — адно слова? дзе ж яно, дзе? У кніжыцы старой, друкаванымі драўлянымі коўбікамі...

У гэту хвіліну сотні праменняў збягаюцца сюды, дзе я, дзе мы. Побач сядзіць дзяўчына. Расказвае, усё. Не таму гэта гаворыць, каб я яе пацешыла. Яна ведае, што я ёй даць нічога не змагу, апрача гэтай хвіліны, але яе стан душы і цела не дазваляе бачыць таго, што іншы чалавек таксама ходзіць без скуры, дзень і ноч выстаўлены на гарачы подых няўмольнага сонца. Дадуць ёй крапелькаў і пілюляў, пакутаваць так не будзе. Што мне ёй сказаць? Цэлы горад цікавіўся лёсам яе дзіцяткa, якое загінула. З працы звольнілі яе, работніцу, а нікога з адміністрацыі, успамога для беспрацоўных ледзь хапае, каб заплаціць за кватэру. Купіла зімовыя боты — цяпер паўгалодная два тыдні ходзіць. І куды ні глянь — перад вачыма бездапаможная дачушка, якая клікала маці, замярзаючы ў развaленым доме... Усе людзі спачувалі Адрыяне, але ён, былы муж, не адазваўся...

Што пры гэтым мае абстрактныя болі, лямант пасля смерці блізкага мне чалавека ці гібелі „вечнай любові"? Што мой боль за Айчыну? Я ж не народны прарок, які ўмее пакутаваць за мільёны! „Божа, вазьмі маё жыццё..."

Ці ж хворым нам усім заставацца? Каб бачыць зарчэй? Каб чутней слухаць? Сябе, людзей, час?

**Міра Лукша**




Сэрцайка, мілае, дай мне нейкі рэцэпт на хлопца! Мне ўжо 18 гадоў, у будучым годзе заканчваю я школу, а вось хлопца сабе па душы ніяк знайсці не магу. Які з іх прыгожы ды варты мяне? Мама гаворыць, што найважнейшае, каб быў добры, салідны чалавек, каб не піў, не курыў, а прыгажосць гэта ўсё справа другарадная.

А мне ўсё роўна падабаюцца хлопцы вельмі прыстойныя. Можа быць нават і гіцаль крыху! Дзяўчат кідае, змяняе іх, як рукавічкі, а ўсё роўна такі вось падабаецца — і ўсё.

Ведаеш, Сэрцайка, ёсць у мяне старэйшая сястра. Ёй ужо 26 гадоў, дык, уяві сабе, у каго яна закахана? У нямецкага канцлера Коля. Як толькі ўбачыць яго ў тэлебачанні, дык аж млее. Ай, ай, кажа, які прыстойны! Які мужны! Што за мужчына! А мяне ў той момант бярэ смех. Ну, як жа можа падабацца такі стары, тоўсты і непаваротлівы? Іншая справа, калі маім сяброўкам падабаюцца нейкія акцёры з фільмаў. Адна дык паабклейвала Аленам Дэлонам усе сцены ў сваім пакоі. Яе я магу зразумець. Праўда, і яна мяне смяшыць. Аглядае фільмы з гэтым французскім акцёрам, а пасля прыходзіць дахаты і ўвесь час толькі пра яго думае. Прызналася мне калісьці, што нават у думках кахаецца з ім. Мо гэта і смешнае, але прынамсі мае нейкі сэнс. А як можа падабацца канцлер Коль?! У маёй сястры ўсе кавалеры на Коля падобныя. Калі мужчына — дык мае выглядаць салідна і дастойна!

І вось я разглядаюся вакол сябе і шукаю хлопца. Хацелася б, каб быў прыстойны, нятоўсты, нябрыдкі, высокі, абаяльны, з чароўнай усмешкай, мілы ў адносінах да мяне. Але толькі да мяне! Раблю гэту маленькую ўвагу менавіта таму, што як толькі ўбачу такога хлопца, дык ён ніколі не апраўдвае майго даверу. Заўсёды мае поўна дзяўчат вакол сябе, а што горшае, найчасцей мяне зусім не заўважае. Што рабіць, дарагое Сэрцайка? Мо ты маеш нейкія спосабы на тое, каб хлопец дзяўчыну ў кампаніі заўважыў, каб вылучыў яе з рэшты сябровак, каб пакахаў?

**Агата**

Ой, Агатка, Агатка, табе, відаць, яшчэ рана думаць пра хлопца ўсур'ёз. Ты яшчэ выбіраеш, а каханне ж выбраць немагчыма. Каханне, яно прыходзіць знянацку, неспадзявана, тады, калі чалавек і не думае пра яго.

Во-во, менавіта не трэба пра гэта думаць. Не трэба вылазіць са шкуры, каб знайсці нейкага хлопца, які стане тваім хлопцам. Будзь сабою! Будзь свабоднай дзяўчынай у кампаніі! Не накідайся хлопцу з сардэчнымі справамі. Гавары аб нічым, гэта значыць аб школе, аб кніжках, а калі трэба, то нават і аб пагодзе. Часамі зірні глыбей у вочы гэтаму хлопцу, але надоўга свайго позірку не затрымлівай там, бо падумае і так, што ты яго правакуеш. Не падкрэслівай таксама і сваёй залішняй святасці. Проста будзь звычайнай дзяўчынай, сяброўкай! Убачыш, колькі хлопцаў пачне круціцца каля цябе. А тады ўжо можа і выбраць зможаш... Але памятай, што нават жаба можа падабацца камусьці. Адзінага рэцэпту на прыгажосць няма.

**Сэрцайка**

## ВЯНОК

**НАДЗЕЯ** (Мінск). 34 гады, рост 178 см. Замужам не была. Інжынер-канструктар. Матэрыяльна незалежная, камфартабельна абсталяваная кватэра. Крыху сама займаецца музыкай, любіць дом. Пазнаёміцца з высокім, культурным мужчынам да 45 гадоў.

☆

**МАРЫНКА** (Слонім). 17 гадоў (165 см, 59 кг). Беларуска, студэнтка. Весёлая, кампанейская. Любіць сучасную музыку, танцы, падарожжы, крыху займаецца фатаграфіяй, вяжа на прутках, любіць кулінарыць (смачна гатуе!). Хоча перапісвацца (па-руску) з хлопцамі і дзяўчатамі.

☆

**ІРА** (Беласток), 32 гады. Замужам не была. Брунетка сярэдняга росту, пухленькая. Працуе служачай. Свая, добра абсталяваная кватэра. Любіць дом, спакой. Не курыць. Пазнаёміцца з сімпатычным панам.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне, разгадай мой сон! Сніцца, што я са знаёмым мужчынам еду фураю капаць у яго бульбу. Едзем мы дарогай праз поле, дзе расце бульба. Зеляніцца гэтае поле ад бульбянікy — такое яно зялёнае, прыгожае. Але гэта чужое. І мы шукаем, дзе ж бульба гэтага чалавека. Ён кажа, што ў яго то не такая прыгожая бульба, як мы тут бачым. Аб'ездзілі мы ўсё кругом і не знайшлі гэтай яго бульбы. Я кажу: „Ты ж садзіў, абворваў бульбу, як жа ж ты не ведаеш, дзе гэта?" І так дзесьці прапаў гэты знаёмы і тая фурманка, а я стаю і бачу: едуць фуры з сенам. Нейкія незнаёмыя людзі сена вязуць. Але сена гэта, хаця высушанае, але такое зялёнае, прыгожае, доўгае, проста любата.

**Марыся**

Сніцца мне, што я на вёсцы, у доме маёй бабулі і яна там, хаця я яе не бачу, не гаварыла з ёй, але ведаю, што яна ёсць. Аж бачу, на панадворак прыйшлі суседскія хлопцы. Там стаіць стол і яны сядзяць за сталом. А я хачу іх нечым пачаставаць. Але перш за ўсё трэба мне пераапрануцца. І вось бяда — што не вазьму, блузку ці спадніцу, то ўсё нейкае памятае недамытае, брыдкае. Так і не пераапранулася я і не пачаставала тых хлопцаў. Што можа абазначаць гэты дзіўны сон?

**Люся**

Марыся! Твой сон добры. Абазначае ён не зусім пэўны, але ўсё ж прыбытак для тваёй сям'і. Напэўна будзеш з нечага цешыцца.

А твой, Люся, сон нядобры. Абазначае ён для цябе, наадварот, нейкую страту, а мо простa непрыемнасць ці хваробу. Аб гэтым сведчыць тая кепская вопратка — памятая, брудная, непрыгожая. А мо ўсё закончыцца толькі нейкімі непрыемнымі плёткамі...

**Астрон**




### ФАРШЫРАВАНАЯ БУЛЬБА

На 1 кг бульбы (8 бульбін авальнай формы) трэба ўзяць 15 дэкаў рэштак вяндліны, 10 дэкаў пячурыц, 5 дэкаў цертай булкі, 1 яйка, паўшклянкі малака, 10 дэкаў цыбулі, 2 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, 4 лыжкі алею, 5 дэкаў рэштак жоўтага сыру, паўшклянкі смятаны, соль, перац.

Памыць старанна бульбу, палажыць у гарачую ваду і варыць мінут 15. Бульба павінна быць цвердаватая. Калі астыне, абабраць яе. Кожную бульбіну перарэзаць напалавіну ўздоўж, асцярожна выразаць крыху мякішу, пакідаючы сценкі таўшчынёю каля 1 см. Вяндліну дробна пасячы. Цертую булку заліць малаком. Пячурыцы памыць, ачысціць, нашаткаваць. Цыбулю абабраць, спаласнуць, пасячы, пасаліць і падагрэць на малым агні, а калі змякне, дадаць 2 лыжкі тлушчу і тушыць. Калі цыбуля пачне жаўцець, дадаць пячурыцы і тушыць мінуты тры, тады дадаць цертую булку, вяндліну і яшчэ хвіліну тушыць, памешваючы. Сыр сцерці на дробнай тарцы. 2-3 лыжкі сыру дадаць да тушанай мяшанкі, а калі яна крыху астыне, дадаць яйка і пятрушку, а таксама разлушаны відэльцам выразаны з бульбы мякіш. Усё старанна перамяшаць, дадаць солі і перцу. Падрыхтаваным фаршам напоўніць палавінкі бульбін, палажыць іх у вялікую нізкую каструльку, спырснуць алеем, паліць смятанай, пасыпаць сырам. Уставіць у нагрэтую духоўку, падаваць, калі бульба будзе мець роўны залацісты колер, у якасці другой стравы на абед.

### БУЛЬБА З СЫРНЫМ СОУСАМ

На 1 кг бульбы трэба ўзяць 3/4 шклянкі густой смятаны, 15 дэкаў сыру „рокполь", 3 лыжкі пасечанай зялёнай цыбулькі, соль, перац.

Бульбу дакладна памыць і зварыць у пасоленай вадзе або спячы (сачыць, каб бульба не папалася). Калі бульбу будзем пячы, дык кожную бульбіну можна загарнуць у алюміневу фальгу і ў ёй пячы. „Рокполь" расцерці на масу, вымяшаць са смятанай, запраўляць па смаку соллю і перцам. Яшчэ ўсё перамяшаць з дробна нарэзанай зялёнай цыбулькай, пасля чаго выложыць у салатніцу. Бульбу ў лупінах палажыць на талерку. Падаваць яе з густым сырным соусам.

Вельмі добрая страва на вячэру, асабліва, калі дадаць яшчэ салату.

**Гаспадыня**

# Зорка

## старонка для дзяцей

Максім Багдановіч

### Зімой

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.

Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі, ад марозу
Пахаладзеўшыя, дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.

Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
Ў грудзях пачала кроў кіпець.



Максім Багдановіч

### Завіруха

У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе,
І спеў ліецца ўсё мацней —
Гулянку справіў пан Падвей.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
Ўскіпела снежнае віно,
І белай пенай мкне яно.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.
Па вулках вее дзікі хмель,
Гудзіць сп'янелая мяцель.
У бубны дахаў вецер б'е,
Грыміць па ім, звініць, пяе.



Здароў, скрыпучы мяккі снег... Фота Мікалая Зубрыцкага.

## ЗАГАДКІ

### Зайкі-загадайкі

45

Хто пабег у куток
На адбойны малаток?
Спаць не дае, усё дзяўбе:
Будуе новы дом сабе.
А ранкам звонкі малаток
Ён пакладае зноў у куток.
Калі ж усім пара ўставаць,
Дык ён тады кладзецца спаць.

46

Што за кавалер, каторы
Мае рыцарскія шпоры?
Носіць на хвасце вясёлку,
Падымае ўсіх на золку?

47

Не канапа, але мае спінку.
Не шавец, але прыдбаў шчацінку.

48

Звер, ды не калматы
І не паласаты.
Ён не есць і не раве,
Над аблокамі жыве.

49

Мышак ловіць,
Ды не кіска ён.
Лісты носіць,
Ды не паштальён.
Каб лісе
Не трапіць на зубок,
У калючы
Скруціцца клубок.

Адказы на загадкі знойдзеш у наступным нумары.

Адказы на загадкі з папярэдняга нумара: 40. Маяк. 41. Цыбуля. 42. Кіт. 43. Чарапаха. 44. Кот.

(беларуская казка)

Жыў сабе адзін чалавек. Быў ён вельмі цікавы і хацеў усё знаць. Куды ні гляне, што ні ўбачыць, то ўсё пытае: што гэта такое, чаму яно ды навошта? Адказвалі яму людзі, але калі пабачылі, што многа і самі не ведаюць, дый кажуць яму:

— Дзіўны ты чалавек. Колькі ты ні пытай, то і так дурнем памрэш, бо ўсяго не пазнаеш.

Не паслухаў ён людзей, кінуў гаспадарку і пайшоў у свет.

— Пайду, — кажа, — к яснаму сонейку — яно ўсюды свеціць, усё бачыць, усё ведае.

Ідзе ён, ідзе, бачыць — сядзіць каля дарогі на камені чалавек ды ўсё крычыць, пытае:

— Дакуль я буду сядзець!?

Папрасіў пакутнік чалавека, каб запытаў у сонейка, калі ён зможа ўстаць.

Пайшоў далей і бачыць, што якісь чалавек падпірае тын, а дзве жанчыны пераліваюць у рацэ ваду. Ужо зусім блізка падыйшоў ён к сонейку — туды, дзе яно з-за зямлі ўсходзіць на неба, а тут якісьці чалавек перагрaбае смецце. Пайшоў далей ды як зірнуў праз лес — аж вочы зажмурыў: гэта палацы сонейка так блішчаць, як жывы агонь. Насілу ўвайшоў ён туды. Запытала яго маці сонейка, чаго сюды ён прыйшоў.

— Прыйшоў запытаць, чаму ўсё так робіцца на свеце.

— Пачакай, сонейка хутка вернецца, яно паднялося на неба аглядаць адтуль зямлю.

Наклаў ён сабе агеньчыку, сядзіць, грэецца ды смажыць сала на ражончыку. Наеўся сала з хлебам, захацелася яму піць. Пайшоў да ракі напіцца. Толькі схіліўся к вадзе — аж адтуль выплыла прыгожая паненка ды зірнула на яго. Стаў чалавек, як укопаны — не можа ад яе адарваць вачэй.

— Не пі вады з ракі, — сонейка цябе спаліць! — сказала дзяўчына і павяла яго пад стары дуб, дзе была крыніца. Пачаў ён піць чыстую і халодную ваду. Колькі ён ні п'е, дык усё больш хочацца, і не можа ніяк напіцца.

— Годзе табе піць, — кажа паненка, — бо ўсё добра ў меру. Ты хочаш усё ведаць, але не ведаеш таго, што хутчэй выпіць усю ваду, чым усё знаць. Ты трохі напіўся, трохі свету пабачыў, то і будзеш знаць пра патрэбу.

Зірнуў ён — сонейка апускаецца з неба ў свае палацы.

— Вось мой бацька вярнуўся да гасподы. Глядзі, нічога не кажы яму, што ты пазнаў і што мяне бачыў, — сказала прыгажуня.




Тут яна ўзнялася ўгару ды заблішчэла адтуль гожаю зоркаю. Пайшоў ён да сонейка ў палацы. Убачыла яно, што чалавек асмеліўся прыйсці, ды як пачне смаліць яго ды пячы, аж мур трашчыць, а чалавек нічога — стаіць. Раззлавалася сонейка, давай пячы яшчэ горш, а ён шапку насунуў на вочы і падыходзіць бліжэй. Пабачыла сонейка, што нічога не парадзіць з упартым чалавекам. Расказаў ён сонейку, чаго прыйшоў.

— Калі хочаш усё знаць, то хутка памрэш, — бліснула яму сонейка ў галаву.

Пачуў ён, што многа ведае, але галава гарыць, а ў сэрцы холадна — як лёд. Выйшаў ён з палаца, сустрэў маці сонейка.

— Памрэш ты, чалавеча, калі не сагрэеш сэрца — без сэрца твая галава згарыць!

Пачаў зваць на дапамогу дачку сонейка. Хутка пакацілася яна з неба зоркаю, стала побач гожай паненкаю. І загарэлася ў яго ў сэрцы, і пачуў ён, што пакуль будзе там гарэць, усё ён будзе разумець. Узяліся яны за рукі і пайшлі ў яго краіну. Падыходзяць да таго чалавека, што разграбаў смецце.

— Ой, чалавеча! Ты ў смецці шукаеш згубленыя грошы ды дарма траціш час. Ідзі ты працуй, заробіш больш тых страчаных!

Зразумеў той чалавек сваю памылку і ўзяўся за працу і нажыў гаспадарку і грошы на патрэбу. Ідуць далей, а тут жанкі ўсё пераліваюць тую ваду.

— Колькі б вы не пераліваді, то вада вадою будзе. Колькі б вы не гаварылі — нічога не выгаварыце!

— Не падпірай у жыцці гнілое, бо яно ўсё роўна ўпадзе! — параіў чалавеку, які падпіраў гнілы плот.

Нарэшце прыйшлі да таго чалавека, які сядзеў на камені, ды пайшлі міма. Сказалі яму здалёк:

— Патуль ты будзеш сядзець, пакуль другі тут сядзе, бо ў жыцці кожны зойме сваё месца.

Прыйшлі маладыя ў вёску, якую калісьці пакінуў цікавы жыцця чалавек. Гаспадарка даўно знішчэла. Узяліся за працу. Пабудавалі харомы, нажылі дабра. І дзівіліся людзі, што так добра яны жывуць і ніколі не тужаць. А яны адказвалі:

— Добра жывем, таму што ў нас агонь у сэрцы, а розум у галаве.

